


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

**ЖНІВЕНЬ 2015 г.** **№ 5 (55)**

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**В Шкловском районе сотрудники милиции изъяли обувь и одежду.**

3 августа ГБЭП, ОГАИ, ИМНС на а/д Витебск – Гомель вблизи д. Забродье задержана а/м «Мерседес-Бенц Спринтер» под управлением неработающего жителя г. Орша, 1990 г.р., перевозившего продавца у ИП, жителя г. Шклова, 1962 г.р., который в нарушение ст. 12.17 ч. 4 КоАП осуществлял транспортировку обуви в количестве 54 пар импортного производства без документов, подтверждающих приобретение. Обувь на сумму 8 320 000 руб. изъята. Проводится проверка. Также в указанном автомобиле проезжала ИП, жительница г. Шклова, 1963 г.р., которая осуществляла транспортировку 90 пар обуви импортного производства и 23 спортивных костюмов импортного производства без документов, подтверждающих приобретение. Обувь и спортивные костюмы на сумму 19 800 000 руб. изъяты. Проводится проверка, сообщает uvd.mogilev.by.

**1 августа в 19-55 в городском поселке Круглое** 26-летний житель г. Минска, управляя автомашиной «Опель Корса» по улице Суворова, при выезде со второстепенной дороги на главную, не предоставил преимущество и совершил столкновение с двигавшимся на велосипеде 68-летним местным жителем. В результате ДТП велосипедист получил травмы в виде закрытого перелома ребер, госпитализирован.

**Реальная заработная плата** работников Могилевской области I полугодии 2015 г. по сравнению с I полугодием 2014 г. уменьшилась на 3,9%,

# УСЁ ЦІКАВАЕ ЧАКАЕ НАС НАПЕРАДЗЕ

**3 жніўня беларускі ўрад павялічыў бюджэт пражытачнага мінімуму больш, як на 6 працэнтаў. Паведамляецца, што тым самым будзе павялічаная сума разнастайных сацыяльных выплат. Таксама будуць павялічаны пенсіі пенсіянерам.**




Тое, што Аляксандр Рыгоравіч паспрабуе задобрыць пенсіянераў напярэдадні пераабрання, сябе, любімага, на чарговы прэзідэнцкі тэрмін, было зразумела ўжо даўно. Праўда, павелічэнне пенсій на 5% выглядае крыху смешным, асабліва калі пагледзець, наколькі выраслі кошты на прадукты і паслугі за апошні час. Аднак і гэтаму ёсць сваё тлумачэнне – у стабільна “квітнеючай” Беларусі проста няма грошай для падвышэння пенсій і заробкаў, пасля 21 года нязменнага мудрага кіравання краіна знаходзіцца ў даўгах, як у шаўках. Дажыліся да таго, што пабіраемся, як жабракі ля царквы, пастаянна выпрошваючы крэдыты для рэфінансавання старых даўгоў у Расіі і МВФ.

Да таго ж Белстат напярэдадні апублікаваў вынікі працы беларускай гаспадакі за першае паўгоддзе, паводле якіх, насуперак прагнозу, Валавы унутраны прадукт не вырас, а ўпаў больш, як на тры працэнты. Так што і гэта нязначнае падвышэнне пенсій і сацыяльных выплат толькі паскорыць тэмпы росту інфляцыі, бо яно ніяк не забяспечана станам эканомікі краіны. Аднак хто ж пра гэта думае напярэдадні выбараў, рэйтынг дзеючага кіраўніка краіны падвышаць трэба, а пра падзеі 2011 года народ ужо, магчыма, забыўся. Нічога, пасля выбараў яшчэ ўспомніць, бо законы эканомікі падмануць цяжка…

Той жа Белстат ужо зараз таксама пачаў паведамляць пра нейкі рост заробкаў у краіне. Праўда, я асабіста чамусьці не сустракаў людзей, у якіх зарплаты сапраўды выраслі.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# ВЯРХОЎНЫ СУД ПАЛІЧЫЎ, ШТО КАСТУСЁВА ПАКАРАЛІ ПРАВІЛЬНА

**Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў напрыканцы ліпеня атрымаў адказ з Вярхоўнага суда РБ на сваю скаргу, пададзеную ў парадку нагляду.**




У скарзе палітык прасіў старшыню Вярхоўнага суда адмяніць пастанову суда Шклоўскага раёна ад 23 снежня 2014 года аб пакаранні яго штрафам у памеры 25 базавых велічынь за ўдзел у Дні памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы 26 кастрычніка 2014 года, і пастанову суддзі Магілёўскага абласнога суда Мікалая Гладкага ад 3 лютага 2015 года, якой пастанова суда Шклоўскага раёна была пакінута без змяненняў, а касацыйная скарга Рыгора Кастусёва без задавальнення.

Таксама Рыгор Кастусёў звяртаўся з просьбай у Вярхоўны суд вынесці прыватнае вызначэнне на адрас суддзяў Святланы Баранцавай, Мікалая Гладкага і Ігара Прошкі за допушчаныя відавочныя парушэнні заканадаўства.

Намеснік старшыні Вярхоўнага суда Р. Аніскевіч у сваім адказе аб разглядзе скаргі напісаў Кастусёву, што “вашыя довады аб адсутнасці ў вашых дзеяннях складу інкрымінуемага адміністрацыйнага правапарушэння, а таксама аб парушэнні вашага права на свабоду мітынгаў, шэсцяў і выражэння свайго меркавання з’яўляюцца нявартымі.

Абставіны здзейсненага вамі адміністрацыйнага правапарушэння даследаваны з дастатковай паўнатой, усім сабраным доказам, у тым ліку і вашым тлумачэнням, дадзена належная ацэнка.

Парушэнняў норм працэсуальнага права, якія цягнуць адмену судовых пастаноў, не дапушчана.

Падстаў для адмены пастаноў, аб чым вы ставіце пытанне ў скарзе, не маецца”.

Рыгор Кастусёў кажа, што ён ні ў якім выпадку не можа пагадзіцца з высновамі намесніка старшыні Вярхоўнага суда, бо лічыць, што, удзельнічаючы ў ушанаванні памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы, ён ніякім чынам не парушаў беларускае заканадаўства. Па словах палітыка, ён безвынікова прайшоў усе судовыя інстанцыі ў нашай краіне з надзеяй дабіцца адмены, несправядлівай, на яго думку, пастановы суда Шклоўскага раёна ад 23 снежня 2014 года аб пакаранні яго штрафам у памеры 25 базавых велічынь за гэта “правапарушэнне”, і зараз будзе рыхтаваць скаргу ў Камітэт па Правах чалавека ААН.

Намеснік старшыні Партыі БНФ лічыць, што суддзямі Баранцавай, Гладкім і Прошкам былі груба парушаны яго правы, прадугледжаныя арт. 33, 34, 35 Канстытуцыі РБ і арт. 19, 21 Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Нагадаем, што 23 снежня 2014 г. суддзя суда Шклоўскага раёна Святлана Баранцава пакарала штрафам у памеры 25 базавых велічынь (тры мільёны семсот пяцьдзясят тысяч рублёў) Рыгора Кастусёва за ўдзел у адзначэнні Дня памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы 26 кастрычніка 2014 года.

Рыгор Кастусёў абскарджваў прысуд суда Шклоўскага раёна ў абласным судзе, аднак усе яго спробы дабіцца справядлівага рашэння скончыліся безвынікова.

У Свіслачы 26 кастрычніка 2014 года адбылося традыцыйнае ўшаванне памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, удзел у якім прынялі грамадскія актывісты з розных рэгіёнаў Беларусі. На мерапрыемстве прысутнічаў і Рыгор Кастусёў.

Увесь час на мерапрыемстве ад могілак у Свіслачы да сканчэння мэрапрыемства ў Якушоўцы прысутнічалі людзі ў цывільным, і міліцэйскі аператар усё фіксаваў на камеру. Цэлы шэраг удзельнікаў адзначэння Дня памяці ў Свіслачы былі пакараныя вялікімі штрафамі.

*Барыс Вырвіч*

## ЮРИЙ НЕСТЕРЕНКО НАПИСАЛ КНИГУ

**Первый сборник прозы “Звычайны шоу-бізнес” писателя и автора-исполнителя из Белынич Юрия Нестеренко вышел в свет в начале июля. Одни рассказы и новеллы уже печатались в белорусских газетах и журналах, другие появились в печати впервые. Практически каждое из произведений так или иначе касается темы музыки.**

- Название книги глубоко иронично. Здесь описываются часто комичные случаи, связанные с овладением музыкальными инструментами, опытом игры в разных коллективах. Например, в рассказе «Хроніка снегападаў» речь о том, как старшие коллеги-музыканты на новогоднем вечере по одному покинули сцену “по делам”, оставив только четырнадцатилетнего гитариста, который продолжал играть программу один, и никто из публики на это особо не обратил внимания – подумали, мол, так и надо, - уточняет автор.

Книга построена на автобиографическом материале, в ней присутствуют реальные люди и события, но это совсем не мемуары по принципу “родился, рос, учился”...

- Это забавные случаи, имеющие свои сюжетные ходы, - говорит Юрий Нестеренко. - Такая “история жизни в необычных картинках”.

*Мария Хлыстова, “МВ”*

# ЖИТЕЛЬНИЦА БЕЛЫНИЧЕЙ: ЕСЛИ ОСТАНЕТСЯ ЛУКАШЕНКО, ТО НИЧЕГО НЕ ИЗМЕНИТСЯ

**Вслед за большими городами пикеты по сбору подписей в поддержку претендентов на пост президента начали выставлять и в райцентрах. Как их воспринимают местные жители, ждут ли перемен после выборов и считают ли претендентов, чьи инициативные группы прошли регистрацию в ЦИК, конкурентами Александру Лукашенко?**

На эти вопросы “Белорусским новостям” ответили жители райцентра Белыничи Могилевской области.

Начало предвыборной кампании жители Белыничей встретили без особого энтузиазма. В 10-тысячном городке не ощущается, что он охвачен важным политическим событием.

У пикета оппозиционной выдвиженки на должность президента Татьяны Короткевич останавливаются немногие. Те, кто откликнулись на призыв местного активиста «Говори правду» Олега Метелицы поддержать женщину-претендентку, объясняют свое решение необходимостью перемен.

«Мне понравилось, что женщина, молодая, может, она с новыми взглядами на эту жизнь», — объясняет один из подписавшихся.

«Надеюсь, что она изменит что-то в Беларуси. Люди станут более свободными, и материальное положение улучшится. Если останется теперешний президент, то ничего не изменится. Перемены будут с новым президентом», — считает молодой мужчина.

Уверенности, что женщина в Беларуси может быть выбрана на должность президента, у поставивших свою подпись, с которыми удалось побеседовать, не было.

«Пусть хотя бы женщина идет в кандидаты, а будет ли она избранной, то думаю, что нет», — высказался мужчина среднего возраста.

Следующая собеседница, женщина пенсионного возраста, обошла пикет. На просьбу журналиста поговорить о выборах отнеслась настороженно. Отметила, что на такие вопросы отвечать опасно, однако после раздумий высказалась: ей хотелось бы перемен, но она не верит, что они после выборов будут.




«Всё, как есть, так и останется. Многие привыкли, с одной стороны, к такой жизни, как сейчас, а с другой — хотелось бы, чтобы что-то изменилось. У нас внешний долг за последний год вырос на полтора миллиарда долларов. И всё растет и растет. Так мы до Греции ползем», — объясняет свое понимание ситуации, в которой находится Беларусь, жительница Белыничей.

Следующие собеседницы, две девушки, также не остановились у пикета, однако журналисту заявили, что собираются голосовать на выборах за женщину, как они выразились, из чувства солидарности. На вопрос, ждут ли перемен в жизни после выборов, ответили, что им хочется верить в лучшее:

«Нужно найти что-то уже новое, а то 20 лет топчемся на месте. Хочется движения вперед. Многие говорят, что привыкли к такой жизни, но они, по-видимому, другой не знают».

«Должность президента больше для мужчины подходит, чем для женщины», — высказывается следующая собеседница, которая обошла пикет, не взглянув на портреты Короткевич.

«Я лично за Лукашенко, ведь в стране есть какая-никакая стабильность. Сейчас кризис в мире. Некоторые начинают жаловаться, что плохо живут, но и от нас также зависит наше благополучие. Кто старается, кто работает, так у того все получается», — считает жительница Белыничей.

«Меня устраивают нынешние порядки. Я человек терпеливый», — реагирует на вопросы журналиста мужчина пенсионного возраста. Собеседник отмечает, что он не против женщины-президента, если будет диктатура. «Я не против женщины-диктатуры», — высказывается он, но не объясняет, что это означает.

«И ничего эти выборы не изменят, ведь президентом станет Лукашенко. И политика будет той же, что и теперь», — присоединяется к разговору еще один житель Белыничей.

По его мнению, сегодняшнему руководителю страны нет конкурентов: «У новых претендентов нет авторитета. Оппозиция утратила даже тот авторитет, который у нее был. У них будет 10-15% поддержки. Больше не будет.

*(Окончание на стр. 8)*

# СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ: «ЛУКАШЭНКА ВЫМУШАНЫ БУДЗЕ ПАЙСЬЦІ НА ЭКАНАМІЧНЫЯ РЭФОРМЫ. БЯЗ ГЭТАГА ЁН НЕ ЎТРЫМАЕ ЎЛАДУ»

**Былы старшыня Нацыянальнага банку Беларусі Станіслаў Багданкевіч разважае, што трэба рабіць са стратнымі прадпрыемствамі і якога сярэдняга заробку на сёньня заслугоўваюць беларусы.**



*Станіслаў Багданкевіч*

— Незалежныя эканамісты часта гавораць пра развал ці гібель беларускай эканамічнай мадэлі. Настолькі часта, што шырокія народныя масы ўжо перасталі рэагаваць на гэта. Але цяпер сытуацыя ўнікальная. Упершыню з 1997 году беларуская эканоміка зазнае рэцэсію, падзеньне ВУП. Ці схільныя вы лічыць, што цяпер сапраўды беларуская эканоміка падышла да нейкага крытычнага пункту, ці цяперашнія складанасьці — гэта толькі эпізод?

— Я сапраўды лічу, што беларуская эканоміка дайшла да пэўнай мяжы. Бо, калі глянуць на пералік прадпрыемстваў, якія дапусьцілі страты — то гэта амаль усё машынабудаваньне, станкабудаваньне, трактарабудаваньне і гэтак далей. Гэта ўсё баляст эканомікі. Але так не павінна быць — гэта тупік. Мы выжываем толькі за кошт таго, што перакрываем гэтыя страты за кошт перапрацоўкі сырой нафты і калійных соляў.

Таму я лічу, што сапраўды тая мадэль разьвіцьця, якая базавалася на замежных крэдытах і іх праяданьні, павінна быць скончаная. Патрэбны пераход на мадэль здаровага сэнсу — рынкавую эканоміку.

— Сёлета па выніках году будзе зафіксавана падзеньне вытворчасьці. Можа, беларусам час прывыкаць, што мы некалькі гадоў будзем жыць у рэцэсіі, што для Беларусі настануць новыя 90-я, толькі ў мякчэйшай вэрсіі?

— Не, я настроены аптымістычна. Я лічу, што ў нас ёсьць магчымасьць зрабіць інстытуцыянальныя, структурныя перамены ў эканоміцы. Патрэбна толькі палітычная воля. Я намеціў 12 крокаў і праграмаў, якія павінен неадкладна прыняць урад — абнаўленьне эканомікі, дзяржапарату, структуры вытворчасьці, прыватызацыя, дэманапалізацыя і гэтак далей.

— Апошнія месяцы на прадпрыемствах актыўна ідзе скарачэньне людзей. Можа, гэта і ёсьць першыя крокі да аздараўленьня эканомікі?

— Я ацэньваю гэта адмоўна. Для таго каб паглынуць лішкі працоўнай сілы з буйных прадпрыемстваў, трэба разьвіваць малы і сярэдні бізнэс і ствараць умовы для прыцягненьня замежных інвэстыцыяў. У нас доля малога і сярэдняга бізнэсу ў ВУП — 23 працэнты. У Эстоніі — 74, у Латвіі — 78, у Эўразьвязе — каля 70. Трэба разьвіваць гэты малы бізнэс, які паглыне тую неэфэктыўную працоўную сілу зь дзяржпрадпрыемстваў, якія выпускаюць непатрэбную рынку прадукцыю. Такім шляхам за 2–3 гады мы можам аднавіць эканамічны патэнцыял Беларусі.

— То бок ваш аптымістычны варыянт наступны: калі пачнуцца рэформы, то за 2–3 гады адновіцца рост эканомікі. А пэсымістычны варыянт як выглядае? Калі рэформы так і не пачнуцца — тады чаго чакаць?

— Я лічу, што яны ня могуць не пачацца. Беларускі народ працавіты, таленавіты, здольны, ня горшы за прыбалтаў, палякаў ці чэхаў. Чаму мы павінны адставаць?

— Але ж рэформы праводзяць не шырокія народныя масы, а палітычнае кіраўніцтва...

— Я мяркую, што беларускае кіраўніцтва будзе вымушана гэта рабіць. Я думаю, што пасьля выбараў Лукашэнка будзе вымушаны абвясьціць праграму структурных і інстытуцыянальных пераўтварэньняў. Бяз гэтага ён проста не ўтрымае ўладу. У 2005 годзе ў нас быў нуль замежных запазычанасьцяў, а сёньня — каля 40 мільярдаў.

Час, калі можна было жыць за кошт гэтага, прайшоў. Бо ў Расеі заканчваюцца рэсурсы, і наўрад ці яна будзе іх мець у ранейшых аб'ёмах. Падаюць цэны на нафту і газ, і таму Масква ўжо ня здолее ўтрымліваць нахлебніцу Беларусь. Таму я аптымістычна мяркую, што Лукашэнка — хоча ці ня хоча — вымушаны будзе гэта рабіць. Жыцьцё яго прымусіць.

— Але ж нават удалыя рэформы амаль заўсёды спачатку прыводзяць да часовага пагаршэньня сытуацыі, не адразу даюць вынік...

— У нас пагаршэньне сытуацыі ўжо адбылося. Што трэба рабіць? Перш за ўсё — скарачаць падаткі, каб тым, хто добра працуе, заставалася больш прыбытку, больш даходаў. Трэба прывязваць супрацоўнікаў і кіраўнікоў да прыбытку, а не да валу. Тады больш грошай застанецца ў рэальнай эканоміцы. Можна будзе стымуляваць працаўнікоў, разьвіваць вытворчасьць — гэтыя пытаньні ляжаць на паверхні.

— Якія сфэры эканомікі варта пакінуць, а якім — дазволіць памерці і запаўняць гэтыя нішы імпартам?

— Трэба падвышаць ролю дзяржавы. Не зьніжаць, як гэта сьцьвярджаюць некаторыя мае

*(Заканчэнне на стар. 5)*

# СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ: «ЛУКАШЭНКА ВЫМУШАНЫ БУДЗЕ ПАЙСЬЦІ НА ЭКАНАМІЧНЫЯ РЭФОРМЫ. БЯЗ ГЭТАГА ЁН НЕ ЎТРЫМАЕ ЎЛАДУ»

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

калегі, лібэральныя эканамісты, — а падвышаць. Трэба, каб дзяржава забясьпечыла стабільны курс, інфляцыю 3–5 працэнтаў у год, замежныя інвэстыцыі — 5–7 мільярдаў даляраў, а доля інвэстыцыяў хаця б 40 працэнтаў да ВУП. Дзеля гэтага патрэбная праграма, якую трэба выконваць.

— Гэтымі днямі назіраецца новая хваля падзеньня расейскага рубля на фоне зьніжэньня коштаў на нафту. Ці можна казаць, што складанасьці ў расейскай эканоміцы на фоне нафты і санкцыяў — не часовыя, гэта надоўга, і, адпаведна, трэба стратэгічна перанакіроўваць беларускі экспарт? Ці беларускае кіраўніцтва спадзяецца, што ўсё ўтрасецца і будзе як раней?

— Я б не казаў, што наша ўлада тут нічога ня робіць. Але трэба зьніжаць сабекошт нашых тавараў і шукаць новыя рынкі збыту, бо ў Расеі гэтая рэцэсія працягнецца мінімум 3–5 гадоў. У Расеі яшчэ ёсьць рэсурсы, у іх 400 мільярдаў даляраў золатавалютных рэзэрваў. Але Расея падае ў сувязі з падзеньнем цэнаў на нафту, чакаць цудаў тут ня варта.

Улада робіць намаганьні па дывэрсыфікацыі экспарту, рынкаў збыту, але яны недастатковыя. Патрэбныя радыкальныя рэформы ўнутры эканомікі, накіраваныя на падвышэньне прадукцыйнасьці працы і эфэктыўнасьці.

Сёньня ў нас урад даводзіць дырэктарам прадпрыемстваў заданьні па аб’ёмах выпуску. Трэба адмовіцца ад гэтага, трэба караць таго міністра, якія даводзіць заданьне па павелічэньні выпуску трактароў, бо трактары стаяць на складах непрададзеныя. Лепш плаціць беспрацоўнаму дапамогу па 500 даляраў — і гэта будзе таньней, чым ён будзе на заводзе марнаваць матэрыялы, электраэнэргію, транспарт. Гэта абсурдная эканоміка.

Дзяржава павінна падтрымліваць тое, што будзе рэнтабэльна на рынку. Лукашэнка заяўляе, што будзем дапамагаць тым, хто сам спраўляецца, а баляст ня будзем карміць зь бюджэту. І выдае дакумэнт пра трыльёны рублёў дапамогі балясту — МАЗу, Гомсельмашу. Яны кепска працуюць, ня плацяць падатак на дададзеную вартасьць — гэта ж ненармальна. Колькі знойдзецца пакупнікоў для іхняй прадукцыі — столькі і трэба вырабляць!

— Але тады палову працаўнікоў такіх прадпрыемстваў трэба звальняць?

— Ну вядома. Але я і кажу, што для гэтага трэба загадзя прыняць законы пра разьвіцьцё малога і сярэдняга бізнэсу, пра прыцягненьне інвэстыцыяў. Стварыць комплекс захадаў, каб гэты новы сэктар паглынуў працаўнікоў зь неэфэктыўных прадпрыемстваў.

Я гляджу апошнія дадзеныя статыстыкі — менш за 6 мільёнаў рублёў атрымлівае звыш паловы працоўных. Але ж гэта дзікунства. Лукашэнка заяўляў, што ў 2015 годзе мы будзем мець заробак тысячу даляраў. Няма гэтага! Дык трэба ж рабіць высновы і пераходзіць да эканомікі здаровага сэнсу.

— Часам людзі спрачаюцца наконт таго, якога заробку заслугоўваюць беларусы пры цяперашнім стане грамадзтва і эканомікі. Адны кажуць, што мы зарабляем у сярэднім столькі, колькі і заслугоўваем, іншыя — што малыя заробкі выходзяць толькі з-за няправільнай палітыкі ўлады.

— Я лічу, што мы заслугоўваем роўна столькі, колькі і атрымліваем. Бо кепска кіруем эканомікай, уласнасьцю, не праводзім рэформаў. Не адзін чалавек кіруе краінай — кіруюць людзі на ўсіх узроўнях, дырэктары, інжынэры, чыноўнікі. Чаму яны падтакваюць, не пярэчаць? Таму 400 даляраў — гэта наша столь сёньня. Гэтулькі можа вытрымаць наша эканоміка.




Яна магла б вытрымаць і тысячу, бо я перакананы, што мы не дурнейшыя за нашых суседзяў. Але для гэтага трэба, каб мы ўсталявалі дэмакратыю і рынкавую эканоміку. А мы хочам мець аўтарытарную сыстэму, камандную эканоміку — і пры гэтым добра атрымліваць. Так не бывае. Мы заслугоўваем тое, што маем.

***Віталь Цыганкоў, Радыё Свабода***

## Будьте осторожны с огнём

От ожогов, полученных при сжигании сухой травы, 30 июля умер житель Белыничского района. Как рассказали в МЧС, 85-летний пенсионер из деревни Большой Трилесин 26 июля сжигал мусор на приусадебном участке. Горение распространилось по сухой растительности, при тушении огня хозяин дома получил ожоги головы, верхних и нижних конечностей 1-3 степени и был госпитализирован.

Утром 30 июля мужчина скончался в больнице.

## Ну и как людям жить?

Прокуратура Могилева вынесла предписания в адрес четырех предприятий, которые нарушили требования трудового законодательства – не выплатили зарплаты работникам. В список должников по зарплате вошли «Могилевский завод Строммашина», «Вяснянка», «Завод Индустрия Климата», а также ООО «Изоспан».

# «Я АДЧУЎ АСАЛОДУ ГАВАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ» — БЯЛЫНІЦКІ АКТЫВІСТ «ГАВАРЫ ПРАЎДУ» ПРАЗ ТРЫ ГАДЫ ЭМІГРАЦЫІ

**Алег Мяцеліца зь Бялынічаў пасьля падзеяў на плошчы Незалежнасьці ў мінулыя прэзыдэнцкія выбары прабыў у вымушанай эміграцыі тры гады. У Вільні разам з паплечнікамі ён стварыў Грамадзянскае і палітычнае прадстаўніцтва Беларусі ў Літве і ўзначаліў яго. Арганізацыя працавала з тамтэйшымі беларусамі ды дапамагала партыям і грамадзкім арганізацыям у Беларусі.**

**Што вымусіла актывіста зьехаць зь Беларусі, як ён ацэньвае сваю дзейнасьць у эміграцыі, якім убачыў у Вільні беларускае жыцьцё?**



*Алег Мяцеліца*

## Нам здавалася, што ўсіх арыштуюць

Алег Мяцеліца зазначае, што падчас разгону Плошчы ў 2010 годзе пазьбег затрыманьня. На наступны дзень вырашыў зьехаць зь Беларусі, каб, як тлумачыць, стаць голасам тых, хто апынуўся за кратамі і хто не пагадзіўся з вынікамі выбараў.

Вырашылі зьехаць, каб нешта пачаць рабіць за мяжой. Думалася, што зьедзем на тыдзень ці два.

— Нам тады падалося, што ўсіх нязгодных затрымаюць. Мы выходзілі ў інтэрнэт і бачылі, што адбываюцца арышты. Вырашылі зьехаць, каб нешта пачаць рабіць за мяжой. Думалася, што зьедзем на тыдзень ці два. Абралі Вільню, бо там было беларускае жыцьцё. Яна недалёка ад Беларусі, і ў ёй прасьцей, як нам падавалася, было наладзіць дзейнасьць.

У Вільні прабыў тры гады. Я не зжываўся з думкай, што там і застануся. Некалькі разоў зьбіраўся вярнуцца. Падчас парлямэнцкіх выбараў меркаваў, што, як і ў прэзыдэнцкія, адбудзецца лібэралізацыя і тады прасьцей будзе вярнуцца. Але ня выпала. Ды наагул, ніхто не гарантуе, што будзе, калі вернесься: арыштуюць ці не.

У Беларусь неадольна цягнула. Іншым разам пад’язджаеш да беларускай мяжы каго сустрэць — і разумееш, што табе ў Беларусь нельга. І жаданьне вярнуцца такая сытуацыя ўзмацняла.

Мае дзяды і бацькі пражылі жыцьцё ў радыюсе мо дзесяці кілямэтраў, у сваіх вёсках. У Беларусі я і ня мог уявіць, што не змагу жыць не ў сваім мястэчку. Напрыклад, пераеду ў Менск. І гэта спрацоўвала ў Вільні. Я ня мог уявіць, што застануся там на стала.

Калі вярнуўся, адчуў вялізную асалоду, што магу гаварыць па-беларуску зноў. Гэта асабліва першы час дужа натхняла. У Вільні такая магчымасьць была абмежаваная. Гэта трэба пажыць там, каб зразумець, якое гэта задавальненьне. Хаця ў Беларусі многія не гавораць па-беларуску — адказваюць часьцей па-расейску, але ты зьвяртаесься да іх на беларускай мове.

## На другі ці трэці дзень мяне выклікалі ў Менск і пыталі пра санкцыі

— А калі прыехаў пасьля трох гадоў на радзіму, у свае Бялынічы, як людзі ўспрынялі тваё вяртаньне? Зласловілі?

— Я магу пахваліцца, што не адчуў на сабе, што людзі зь мяне кпілі ці пасьміхаліся за сьпінаю, што вярнуўся. Некаторыя, можа, успрынялі маё вяртаньне з-за мяжы, што прывёз шмат грошай. Такі ў нас стэрэатып: маўляў, з Эўропы прыехаў, дык багацьця прывёз.

— Калі вярнуліся, ці была пільная ўвага з боку праваахоўных органаў?

— На другія ці трэція суткі мяне выклікалі ў Менск на гутарку. Адно з асноўных пытаньняў: ці разумеюць у Эўразьвязе, што санкцыі — гэта памылковы шлях? У мяне пыталіся такім тонам, нібы чакалі, што я мусіў адказаць: «Гэта сапраўды памылковы шлях, і трэба весьці дыялёг». Вядома ж, яны ведалі, чым я займаўся ў Літве і што я не такі ўжо і важны чалавек у эўрапейскай палітыцы. Але ведалі і тое, што я сустракаўся з замежнымі палітыкамі.

Пыталі таксама пра дзейнасьць нашай арганізацыі «Грамадзянскае і палітычнае прадстаўніцтва Беларусі ў Літве». Пыталіся, чым я зьбіраюся займацца ў Беларусі. На гэта адказаў, што грамадзкай дзейнасьці ня кіну і застануся апанэнтам дзейнага рэжыму. Мне паабяцалі, што са мной яшчэ зьвяжуцца, але больш не было званкоў.

— А як сам ацэньваеш сваю дзейнасьць і дзейнасьць сваёй арганізацыі ў Вільні?

Мы прагнулі дзейнасьці. У нас было такое адчуваньне... не віны, а хутчэй адказнасьці.

— Напачатку мы дзеялі больш эмацыйна. Мы не ўяўлялі, якая сытуацыя ў Літве, што там за беларуская супольнасьць. Мы прагнулі дзейнасьці. У нас было такое адчуваньне... не віны, а хутчэй адказнасьці: калі мы тут, а на радзіме сядзяць актывісты, і многія пад моцным псыхалягічным ціскам, то нам хацелася быць карыснымі.

*(Працяг на стар. 7)*

# «Я АДЧУЎ АСАЛОДУ ГАВАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ» — БЯЛЫНІЦКІ АКТЫВІСТ «ГАВАРЫ ПРАЎДУ» ПРАЗ ТРЫ ГАДЫ ЭМІГРАЦЫІ

*(Працяг. Пач. на стар. 6)*

Калі параўноўваць нас з падобнай арганізацыяй — «Польскім домам» у Вільні, то сваю такую ж нішу мы ня здолелі заняць з розных прычын. Адна зь іх, відаць, — недастатковая кампэтэнтнасьць нас саміх у шмат якіх пытаньнях.

Нам пазьней стала зразумела, што стварыць «Беларускі дом» у Вільні — гэта пакуль толькі мара. Гэта можа адбыцца толькі тады, калі ёсьць моцная падтрымка беларускай дзяржавы, а гэта немагчыма ў сёньняшняй сытуацыі. Альбо калі такое памкненьне ёсьць у моцнай дыяспары.

У Вільні ж беларуская дыяспара жыве сваім жыцьцём. Яна разьяднаная. Беларускай супольнасьці няма. Такая ніша занятая палякамі.

Але, нягледзячы на адсутнасьць скансалідаванай беларускай супольнасьці ў Літве, ёсьць людзі, іх няшмат, якія не забываюць пра сваю беларускасьць, пра беларускую Вільню і саму Беларусь. Яны сваімі высілкамі ўвесь час спрабуюць дзеля гэтага нешта зрабіць. І дзякуючы ім беларускае жыцьцё ў Вільні цепліцца.

Тыя ж памятныя і мэмарыяльныя шыльды пра вядомых беларусаў. Вось прыяжджаюць беларусы і натыкаюцца на гэтыя шыльды. Хто гэта рабіў? Зразумела, не літоўцы і не беларуская дзяржава, а мясцовыя руплівцы беларушчыны. І гэтым людзям мы павінны быць удзячныя. Іхныя імёны не павінны забывацца.

## Літоўскія беларусы кажуць: «Мы палякі»

— Што азначае фраза «занятая палякамі ніша»? Беларуская ў тым ліку?

— Я маю на ўвазе працу з тамтэйшым карэнных насельніцтвам. Тамтэйшыя беларусы сябе далучаюць да польскай нацыянальнай меншасьці. Кажуць: «Мы палякі. Так мы іхнай мовы не разумеем, але ўсё адно мы палякі». Яны гуртуюцца праз «Польскі дом» ці польскую амбасаду. Беларускага ж такога Дому няма. А беларуская амбасада гэтым не займаецца, то бок беларусам няма як прасоўваць свае інтарэсы. Літоўскія беларусы глядзяць беларускае тэлебачаньне, маюць сваякоў у Беларусі, але ўсё ж хіляцца да польскай меншасьці ў Літве.

Зразумела, тых беларусаў, якія заяўляюць пра сваю польскасьць, літоўцы ўспрымаюць праз прызму сваіх стасункаў з палякамі — не заўжды добрых, варта заўважыць.

— А чым вы займаліся ў Вільні? Як ставіліся да вашай дзейнасьці літоўскія палітыкі і простыя літоўскія грамадзяне?

Для нас было важна, каб і літоўскае грамадзтва было інфармаванае пра тое, што адбываецца ў Беларусі.

— Калі ў нас зьявілася памяшканьне, мы пачалі яго прэзэнтаваць як месца, даступнае любому беларусу. Мы праводзілі публічныя акцыі, пачынаючы зь Дзён салідарнасьці. Для нас было важна, каб і літоўскае грамадзтва было інфармаванае пра тое, што адбываецца ў Беларусі. Мы дапамагалі беларускім арганізацыям ды ладзілі культурніцкія мерапрыемствы.

Усё, што маглі для нас зрабіць літоўскія палітыкі і актывісты няўрадавых арганізацыяў, асабліва тыя, якія ведалі беларускую спэцыфіку, — яны зрабілі. У нас было памяшканьне, была рэгістрацыя, было першаснае фінансаваньне. Нараканьняў у нас не было.

Калі б мы разьвіліся моцна, то маглі быць цяжкасьці. Літоўцы маглі б успрыняць нас як тых, хто спрабуе пазбавіць іх спадчыны ВКЛ. Гэтае пытаньне я бачу актуальным для літоўцаў, калі беларусы адчуюць сябе сапраўднай нацыяй са сваёй гісторыяй.

Што да простых літоўцаў, то на маёй машыне былі беларускія нумары і бел-чырвона-белы сьцяг. І многія зь іх, асабліва першыя два гады, выказвалі салідарнасьць — сыгналілі з машын альбо дэманстравалі сваю прыхільнасьць іншым спосабам. Гэта было дужа прыемна. Іншай рэакцыі я не заўважаў. Былі сытуацыі, калі простыя літоўцы падыходзілі і выбачаліся за Алеся Бяляцкага.

Але, зразумела, зь цягам часу беларуская тэма пасьля разгону Плошчы 2010 году пачала губляць сваю актуальнасьць. Паволі яна згасала. Нехта ад беларускай тэмы проста стаміўся.

Што да карэннага беларускага насельніцтва ў Літве, то іхная пазыцыя да нас была такой жа, як і ў Беларусі. Яны там таксама падзеленыя дужа. Як і ў самой Беларусі, так і ў Літве мясцовая беларусы ведаюць Беларусь празь дзяржаўнае беларускае тэлебачаньне. Яны бачаць карцінку пра захаваныя калгасы ды прадпрыемствы, пра моцнага і непрадажнага палітыка, дык такія ўспрымалі, я мяркую, нас нэгатыўна.

## Апроч нас ніхто пра нас дбаць ня будзе

— Ці хацелася б яшчэ раз паўтарыць досьвед сваёй эміграцыі? Чаму навучыла яна цябе?

— Калі б я хацеў гэтага, то я адтуль не зьяжджаў бы. Адсюль іншым разам здаецца, што Беларусь павінна быць заўжды на першым месцы, усё нібыта мае круціцца вакол яе. Што, маўляў, палітыкі ў Брусэлі мусяць сядзець і абмяркоўваць толькі беларускія праблемы. Аднак сьвет жа вялікі. Акрамя беларускіх, ёсьць іншыя вялікія праблемы.

Калі ты сам ня будзеш дбаць і нешта рабіць у Беларусі для Беларусі, то ніхто, акрамя цябе, гэтым у замежжы займацца ня будзе.

Калі ты сам ня будзеш дбаць і нешта рабіць у Беларусі для Беларусі, то ніхто, акрамя цябе, гэтым у замежжы займацца ня будзе. Гэта не ад таго, што нібыта эўрапейская палітыка

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# УСЁ ЦІКАВАЕ ЧАКАЕ НАС НАПЕРАДЗЕ

*(Закантч. Пачатак на стар. 1)*

Нейкае падвышэнне тарыфаў было ў бюджэтнікаў, аднак і гэтыя “шчаслівыя” людзі кажуць, што пасля аб’яўленага падвышэння ім проста знізілі ўзровень разнастайных даплат, і заробкі засталіся, фактычна, такімі ж самымі.

Ну а пра працаўнікоў вёскі і прадпрыемстваў нашага рэгіёна я наогул маўчу – у іх заробкі не растуць, а падаюць. Знаёмыя і незнаёмыя людзі пастаянна падыходзяць і распавядаюць, наколькі знізіліся за апошні час зарплаты ў іх на прадпрыемствах, і пытаюцца, які зараз стан спраў у іншых рэгіёнах.

Паверце мне на слова, амаль усюды ў Магілёўскай вобласці тое ж самае – годнай працы няма, заробкі ў людзей скарачаюцца, самі прадпрыемствы, за рэдкім выключэннем, дыхаюць на ладан…

Цікава і тое, што ў мясцовых уладаў нашага рэгіёна гэта сітуацыя нейкага асаблівага клопату не выклікае. Яны зараз больш дбаюць пра тое, каб забяспечыць чарговую “элегантную перамогу” Рыгоравіча на выбарах, ну і вырашаюць нейкія свае “паказушныя” праблемы – у Круглым рыхтуюцца да правядзення абласных “Дажынак” (незразумела, праўда, што будуць адзначаць, бо значная частка ўраджаю ад засухі проста ляснула), у Шклове ўсталёўваюць стэлу з рускамоўным надпісам, прысвечаную гадавіне спалення горада маскоўскім войскам. Засталося толькі сам горад у “Стеклов” пераназваць і будзе поўны “піпец”. Ну а ў Бялынічах пайшлі яшчэ далей –там мясцовым уладам разам з райста проста карціць пабудаваць вялікую краму на




месцы былых каталіцкіх могілкаў, як быццам у гарадскім пасёлку іншых месцаў няма. Прапаную яе так і назваць – магазін “На касцях”, тады і памяць захаваем, і сумесныя планы Мікалая Кадаценкі і Тамары Адамовіч выканаем.

Маразм працягваецца, і ўсё самае цікавае чакае нас яшчэ наперадзе…

***Іван Барысаў***

## Авария в Круглянском районе

2 августа в 18-55 в Круглянском районе 26-летний житель деревни Павловичи, управляя скутером «Хорс Моторс» по автодороге Тетерино–Шепелевичи, вблизи деревни Глубокое отвлекся от управления, выехал на полосу встречного движения, где столкнулся с микроавтобусом «Форд Транзит» под управлением 53-летнего односельчанина. В результате ДТП водитель скутера получил закрытую черепно-мозговую травму, закрытый перелом малоберцовой кости, рваную рану голени, множественные ссадины конечностей. Был без мотошлема. Пострадавший госпитализирован, сообщает госавтоинспекция УВД Могилёвского облисполкома.

## Жительница Белыничей: Если останется Лукашенко, то ничего не изменится

*(Оконч. Начало на стр. 3)*

Однако в стране нужно что-то менять. Например, больше внимания уделять частному сектору и его развивать, ведь многие государственные предприятия убыточные. Они сдерживают развитие нашей страны».

Активист «Говори правду» из Белыничей Олег Метелица говорит, что за первые дни кампании подписались за Татьяну Короткевич более 100 человек. По словам активиста, жители райцентра не боятся ставить свои подписи за оппозиционную выдвиженку, однако в их настроениях ощущается апатия.

Тем не менее, утверждает он, подписавшиеся понимают, что альтернатива действующему президенту может быть: «Люди соглашаются с тем, что назрели и какие-то перемены. Пусть после выборов сама власть поймет, что они нужны, и это будет нашей победой. Если же мы не будем участвовать в выборах, то и власть посчитает, что ничего не стоит менять».

## «Я АДЧУЎ АСАЛОДУ ГАВАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ» — БЯЛЫНІЦКІ АКТЫВІСТ «ГАВАРЫ ПРАЎДУ» ПРАЗ ТРЫ ГАДЫ ЭМІГРАЦЫІ

*(Закантч. Пачатак на стар. 6-7)*

несумленная і ў ёй падвойныя стандарты. Проста ў кожнага свае праблемы. І чым больш мы аддаляемся ад той жа Літвы, тым цяжэй там разумеюць Беларусь. Адсюль і выснова: акрамя нас саміх ніхто пра нас асабліва дбаць ня будзе...

Алег Мяцеліца — актыўны ўдзельнік усіх прэзыдэнцкіх выбарчых кампаніяў. Да 2010 году ў яго было блізу сямідзесяці сутак адміністрацыйнага арышту. Раней, прызнаецца ён, калі-нікалі ганарыўся гэтым сваім дасягненьнем. Але пасьля 2010 году, калі многія палітыкі прайшлі праз арышты паводле Крымінальнага кодэксу, а некаторыя, як Мікола Статкевіч, яшчэ за кратамі, зьмяніў свой погляд. Цяпер, кажа, яго 70 сутак выглядаюць сьмешнымі.

***Радыё “Свабода”***

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 05.08.2015 г. у 10-00.